# ЭКСПРЭС

АДНАДЗЕНКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
Выданьне Аргкамітэту. Травень (май) 1989. Выпуск 2.

---

## ● БАЛТЫЙСКАЯ АСАМБЛЕЯ

13 -- 14 траўня ў Таліне праходзіла Балтыйская Асамблея. Яе арганізатары: Народны Фронт Эстоніі, Народны Фронт Латвіі і Літоўскі Рух за перабудову ("Саюдзіс"). Гасьцямі Асамблеі былі дэлегацыі народных франтоў Беларусі, Арменіі, Грузіі, Азербайджана, а таксама прадстаўнікі самадзейных рухаў з Украіны, Ленінграда і Масквы, руху Крымскіх татараў. Сьведчаньнем пільнае ўвагі да падзеяў у Прыбалтыцы была прысутнасьць на Асамблеі гасьцей зь Венгрыі, Славеніі, Чэхаславакіі, Фінляндыі, Швецыі; шматлікіх замежных карэспандэнтаў.

Праблемы, якія хвалююць сёньня народы Прыбалтыкі, вызначылі тэмы асноўных дакладаў Асамблеі: "Эканамічная самастойнасьць у праграмах народных рухаў", "Імкненьне да суверэнітэту Балтыйскіх рэспублік -- гістарычны аспект", "Пра юрыдычны аспект дзяржаўнага суверэнітэту Балтыйскіх дзяржаваў", "Нацыянальнасьці ў сьвеце", "Грамадзянская ініцыятыва ў палітычнай структуры СССР", "Пра сумесную групу народных дэпутатаў СССР" (ад народных рухаў Балтыйскіх рэспублік. -- Рэд.). Былі прынятыя адпаведныя рэзалюцыі. Але ж кола пытаньняў, якія абмяркоўваліся на гэтым прадстаўнічым форуме, не абмяжоўвалася толькі праблемамі трох рэспублік. Асамблея прыняла рэзалюцыі пра падзеі ў Грузіі 9 красавіка 1989 і ў падтрымку камітэта "Карабах".

Ад Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" перад удзельнікамі і гасьцямі Асамблеі з прывітальным словам выступіў Зянон Пазьняк. Беларуская дэлегацыя прыняла таксама ўдзел у народным сходзе "Балтыйскі шлях" на Ратушным пляцы ў Таліне. У сваім выступе на гэтым сходзе З.Пазьняк выказаў упэўненасьць, што настане час, калі Балтыйская Асамблея -- ужо ў складзе чатырох народных франтоў -- зьбярэцца ў Менску.

Акрамя пералічаных вышэй рэзалюцыяў, на Асамблеі быў прыняты "Зварот да дэмакратычных рухаў Савецкага Саюза", "Дэкларацыя правоў Балтыйскіх нацый", рэзалюцыя "Пра злачынствы сталінізму", "Зварот прадстаўнікоў народных франтоў Эстоніі, Латвіі і Літвы да кіраўнікоў дзяржаваў-удзельніц Нарады па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і да Генеральнага Сакратара ААН", "Дэкларацыю пра пагрозу вайны дзяржавы супраць свайго народу" і "Дэкларацыю пра эканамічную самастойнасьць Эстоніі, Латвіі і Літвы".

На Асамблеі пацьверджаная неабходнасьць адзінай палітычнай платформы народных дэпутатаў СССР ад Балтыйскіх народных франтоў, падпісаны гістарычны дагавор пра супрацоўніцтва Народнага Фронту Эстоніі, Народнага Фронту Латвіі і Літоўскага "Саюдзіса"; закладзены падмурак Асацыяцыі Балтыйскіх рэспублік. Наступная нарада Балтыйскай Асамблеі адбудзецца у Рызе у 1990 годзе.

Пётра Васілеўскі.

## ● ЗАЯВА ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА, ЗРОБЛЕНАЯ НА ПРЭСКАНФЕРЭНЦЫІ ДЛЯ ЗАМЕЖНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ ПАД ЧАС БАЛТЫЙСКАЙ АСАМБЛЕІ

Вопрос касается положения в Белоруссии, Республики, которая является членом ООН. Белоруссия в 1930 -- 50-х годах ис-

пытала ужас сталинского геноцида и уничтожения национальной культуры. За годы сталинизма в Республике было убито свыше двух миллионов человек, почти каждый четвертый. Была уничтожена почти вся интеллигенция. Символом сталинского геноцида в Белоруссии стало обнаруженное в прошлом году под Минском место массовых расстрелов -- Куропаты. С 1937 по 1941 год там было расстреляно и закопано около 250 тысяч человек. Сейчас вокруг Минска обнаружено шесть таких мест сталинских убийств. Выяснено также, что аналогичные "душебойки" были вокруг каждого крупного белорусского города. Если в 1920 году население Белоруссии составляло около 12 млн. человек, то к началу Второй мировой войны -- 9 млн. 200 тыс. человек. Огромное опустошение принесла белорусскому народу Вторая мировая война. Начиная со 2-й половины 1940-х годов, на место уничтоженной национальной интеллигенции, сотрудников партийного и государственного аппарата систематически присылались кадры из внутренних областей РСФСР. Такова была сталинская политика денационализации и русификации Белоруссии. Закрывались белорусские школы, изгонялся из государственного употребления национальный язык, разрушались памятники культуры, фальсифицировалась история, преследовалась религия. Унижали народ. В результате сегодня в городах Республики не осталось ни одной белорусской школы. Белорусский язык изгнан практически из всех сфер государственной и общественной жизни. Вот результат культурного геноцида, который мы расцениваем как национальную культурную катастрофу. Поэтому возрождение нации должно стать смыслом существования целых поколений.

В 1986 году произошла катастрофа, которой не было никогда. Чернобыльская атомная станция находится в пяти километрах от белорусской границы. На протяжении недели после взрыва ветры дули в сторону Белоруссии. Тонны радиоактивного вещества выпали на территорию Республики. Более того, когда стронциево-цезиевые тучи повернули в сторону Москвы, их искусственным путем осадили над Белоруссией, прямо на головы жителей Могилевской области. При этом люди ничего не знали. Событие долго держалось в тайне от населения республики и от всего мира. И теперь покров тайны снят лишь частично. Не применяется никаких эффективных мер, не выселяют ни взрослых, ни даже детей. Между тем, радиация в юго-восточной части Могилевской области выше, чем в Чернобыльской зоне и достигает местами от 45 до 100 кюри на кв. км, при гранично допустимой величине до 15 кюри на кв. км. В зоне очень опасной для жизни находится свыше 100 тысяч человек. В настоящее время уже больны лейкемией десятки тысяч белорусских детей. Это не считая других болезней, связанных с понижением иммунитета от радиоактивного воздействия. Начался рост раковых заболеваний, хотя по прогнозам ученых это должно было случиться позже, через 5 лет. Есть случаи смерти от рака детей в возрасте до двух лет. О детях Могилевской области никто не заботится, их даже не вывозят на лето из пораженной зоны. Все они ослаблены. Заботу о белорусских детях решил взять на себя Белорусский Народный Фронт, но власти преследуют его представителей, чинят препятствия.

То, что делается властями по ликвидации последствий Чернобыльской аварии -- профанация. Одна пятая часть всех пахотных земель Белоруссии заражена настолько, что непригодна к использованию. Однако их обрабатывают и производят радиоактивно зараженные продукты. До сих пор у населения Белоруссии нет даже индивидуальных дозиметров, хотя вся территория Республики в разной степени заражена. На запросы населения власти дают успокаивающие, неполные и неточные ответы. Честные специалисты

бьют тревогу. Позиция руководства Республики в отношении к народной радиоактивной трагедии преступна. Чернобыльская и Могилевская трагедии -- продолжение геноцида. Это -- сознательное планирование вымирания нашего народа, его вырождения и деградации, подрыва здоровья и генетического фонда. И в культурно-национальном и в физическом смысле белорусский народ поставлен на грань уничтожения. Преследованию подвергались даже попытки населения отметить общественными акциями скорби третью годовщину своей национальной трагедии.

В городе Бобруйске милицией избиты участники траурной акции по Чернобылю. В Минске преследуются участники "Гадзіны смутку". Как и чем это объяснить? Народу Белоруссии нужна помощь. Ни республиканская власть, ни власти СССР не в состоянии обеспечить эту помощь, они не хотят этого; им безразлична судьба народа, попавшего в беду. Необходимо медицинское содействие и общественно-политическая поддержка.

14 траўня 1989, Талін.

## ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ

У асобных раёнах Магілёўскай і Гомельскай абласьцей, дзе радыёактыўная забруджанасьць перавышае 15 кюры/км кв. (гэты ўзровень зьяўляецца ўведзенай пасьля Чарнобыльскай аварыі часовай гранічна дапушчальнай дозай, якая патрабуе эвакуацыі людзей), жыве 86101 дзіця, зь іх -- 58956 да 14 гадоў (паводле зьвестак Беласаўпрафа). Як вядома з той жа крыніцы, для аздараўленьня гэтых дзяцей у бягучым годзе выдзелена 86 тыс. пуцёвак: у дзіцячыя санаторныя лагеры тэрмінам на 45 дзён і санаторныя пуцёўкі на 24 дні для дзяцей да шасьці гадоў з маці. Але весьці размову пра карысьць ад мерапрыемстваў па аздараўленьню можна было б тады, калі б пасьля 24 або 45 санаторных дзён дзеці не вярталіся б туды, дзе кожная хвіліна сьмяротна небясьпечная для жыцьця.

У параўнаньні з гэтымі зонамі, раёны з забруджанасьцю каля 3 -- 5 кюры/км кв. лічацца адносна чыстымі. Аздараўленчыя пуцёўкі для дзяцей, якія жывуць там, Белсаўпрафам не выдзяляюцца. Адным з такіх раёнаў зьяўляецца Быхаўскі. Паводле галоўнага ўрача Быхаўскага раёна В.Нашыванкіна (выступ на сумеснай нарадзе ўрадавых камісій БССР і СССР у Магілёве 14 траўня), там з 240 населеных пунктаў у 107 забруджанае малако, якое п'юць і дарослыя і дзеці. Сёлета людзям упершыню паведамлі, што яны жывуць на забруджанай тэрыторыі. З 721 абсьледаванага дзіцяці ў 52 працэнтаў парушэньні функцый шчытападобнай залозы; у трэці абсьледаваных дзяцей выяўленая анемія...

## АДКАЗ МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ БССР АД 4.4.1989 НА ЗАПЫТ МІНІСТЭРСТВА НАРОДНАЙ АДУКАЦЫІ БССР АД 24.2.1989

Первому заместителю министра
народного образования БССР
тов. Сухнат Л.К.

О продолжительности работы
молодых специалистов

Министерство здравоохранения БССР сообщает, что по имеющимся сведениям, а также данным мировой научной литературы и опыта, регистрируемые уровни радиации в ряде районов Гомельской и Могилевской областей не могут сказаться на состоянии здоровья человека.

Все это не дает оснований для уменьшения сроков обязательной работы по направлению молодым специалистам, окончившим высшие и средние учебные заведения.

Учитывая непрекращающуюся радиофобию среди выпускников учебных заведений, особенно направляемых для работы в контролируемые районы Гомельской и Могилевской областей, Министерство рекомендует улучшить воспитательную и разъяснительную работу среди студентов и учащихся. Минздрав республики при необходимости может оказать в данных мероприятиях необходимую помощь и консультации.

Заместитель министра (подпіс) В.Н.Бурьяк.

## ХРОНІКА

20 красавіка. У Саюзе мастакоў БССР адбыўся сход, на якім абмяркоўвалася заява члена Саюза мастакоў СССР, сябра Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" Сымона Сьвістуновіча пра тое, як на перадвыбарчым пікеце 23 сакавіка яго затрымалі і па-садысцку зьбілі супрацоўнікі міліцыі г.Баранавічы (гл. "Літаратура і мастацтва", 14 красавіка 1989). На сходзе быў абмеркаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 31 сакавіка 1989. Сход прыняў адпаведныя рэзалюцыі.

Рэзалюцыя пра інцыдэнт у Баранавічах

1. Асудзіць акт найгрубейшага парушэньня законнасьці супрацоўнікамі міліцыі г.Баранавічы, якія ў прысутнасьці пракурора горада зьбівалі С.Сьвістуновіча ў перыяд правядзеньня выбарчай кампаніі 23 сакавіка, пад час дзеяньня Закона аб выбарах.

2. Прасіць Прэзідыум СМ БССР зьвярнуцца ў судовыя органы і пракуратуру Рэспублікі аб узбуджэньні крымінальнай справы супраць работнікаў баранавіцкай міліцыі і тых, ад каго яны атрымалі такі загад. /.../

7. Стварыць у Рэспубліцы Камітэт абароны правоў чалавека. Саюзу мастакоў утварыць ініцыятыўную групу па арганізацыі Беларускага Камітэту абароны правоў чалавека. /.../

Рэзалюцыя пра Указ Вярхоўнага Савета БССР ад 31.3.1989

/.../ На пятым годзе перабудовы рэспубліканскія органы ўлады прапануюць антыдэмакратычны ўказ, скіраваны супраць асноўных правоў чалавека, юрыдычна не абгрунтаваны. /.../

Кодэкс дапоўнены новым артыкулам 1672 аб "незаконным карыстаньні сьцягамі і вымпеламі, вырабе, распаўсюджаньні, нашэньні плакатаў, эмблем і сімвалаў", які безумоўна скіраваны супраць выкарыстаньня ў Рэспубліцы гістарычнай нацыянальнай сімволікі.

Супраць правоў і свабодаў чалавека скіраваныя дапаўненьні да артыкула 172 адносна друкаваных выданьняў "...ня маючых выпускных дадзеных". /.../

Мы, удзельнікі схода, разглядаем гэты Указ, як яшчэ адну спробу наступу на дэмакратыю ў Рэспубліцы, спробу адпомсьціць дэмакратычнаму руху ў БССР, абмежаваць магчымасьці яго пашырэньня, блакіраваць незалежную прэсу, сілай забараніць нацыянальныя сімвалы нашага народу.

Гэты Указ супярэчыць Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, духу і літары Хельсінскіх і Венскіх пагадненьняў, Канстытуцыям БССР і СССР. Мы рашуча і аднадушна выступаем супраць антыдэмакратычных артыкулаў гэтага Указу і патрабуем яго адхіленьня Сесіяй Вярхоўнага Савета СССР.

(Рэзалюцыі прынятыя адзінагалосна. 17 траўня 1989 яны пацьверджаныя рашэньнем Пленума Праўленьня Саюза мастакоў БССР.)

19 і 21 траўня, Менск. "Вечная памяць, вечная памяць..." Словы жалобнай малітвы ўзносіліся пад сутарэньні. Велічнае царкоўнае ўбраньне, журботны сьпеў хору, сотні запаленых сьвечак... Адзінае, што жывыя могуць зрабіць для мёртвых -- захаваць памяць пра іх.

На саракавіны Тбіліскай трагедыі па замове Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" ў Менскім Катэдральным саборы былі адслужаныя тры паніхіды па бязьвінна забітых. Апошнюю правіў Мітрапаліт Менскі і Беларускі Філарэт. У сваім слове Уладыка Філарэт паспачуваў грузінскаму народу і заклікаў узмацніць малітвы, каб такая трагедыя больш нідзе не паўтарылася. Ля сабору былі выстаўленыя пікеты, прысьвечаныя падзеям у Тбілісі. Пачаўся стыхійны збор грошай на памяць бязьвінна забітых.

21 траўня, Баруны. Імша на памяць ахвяраў Тбіліскай трагедыі была адслужаная у касьцёле вёскі Баруны Ашмянскага раёна. На набажэнстве прысутнічала група сяброў Народнага Фронту зь Менску. Рытуальнымі атрыбутамі сталі чорная харугва з крыжам, беларускі і грузінскі нацыянальныя сьцягі з жалобнымі стужкамі. Імшу справіў ксёндз Ян Матусевіч. Сьвятар згадваў пакутнікаў каталіцкае царквы, факты масавых забойстваў у Курапатах, Катыні і Хатыні; даводзіў, што расправа над мірнымі людзьмі ў Грузіі, гвалт над людскімі душамі сьведчыць пра жывучасьць д'ябальскага духу сталінізму; гаварыў пра каштоўнасьць дадзенага Богам чалавечага жыцьця, падымаць руку на якое -- найвялікшы грэх. Усё набажэнства вялося па-беларуску і скончылася сьпяваньнем беларускіх рэлігійных гімнаў.

23 траўня. Ад імя Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" у Менскі гарвыканкам была пададзеная заяўка наступнага зьместу:

Старшыні Менскага гарвыканкома
тав. У.І.Міхасёву

На 24 -- 25 чэрвеня гэтага года прымеркаваны Зьезд Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне". Просім садзейнічаць у наступным:
- выдаць дазвол на правядзеньне зьезда ў Менску;
- паспрыяць у арэндзе памяшканьня для зьезду;
- даць магчымасьць карыстацца друкарнямі і сродкамі памнажэньня для друку зьездаўскіх дакументаў;
- выдзеліць сродкі масавай інфармацыі (друк, радыё, тэлебачаньне) для паведамленьня аб падрыхтоўцы і для асьвятленьня працы зьезду;
- вызначыць месцы на будынках, вуліцах і плошчах горада, дзе могуць быць разьмешчаныя вітальныя лозунгі, дзяржаўная, нацыянальная і гістарычная сімволіка (чырвоназялёныя і бела-чырвона-белыя сьцягі, выявы гербаў і т.п.);
- паспрыяць арганізацыі буфетаў у дні працы зьезду;
- паспрыяць у забесьпячэньні гасьцініцай журналістаў, карэспандэнтаў радыё і тэлебачаньня -- (120 месцаў).

Па даручэньні Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне":
(подпіс) Васіль Быкаў, член Аргкамітэту, народны дэпутат СССР;
(подпіс) Аляксандр Жураўлёў, член Аргкамітэту, народны дэпутат СССР;
(подпіс) Аляксандр Дабравольскі, народны дэпутат СССР;

(подпіс) Мікалай Ігнатовіч, народны дэпутат СССР;
(подпіс) Сяргей Леўшуноў, член эксьпертнай групы Аргкамітэту;
(подпіс) Уладзімір Конан, член Аргкамітэту;
(подпіс) Аляксей Марачкін, член Аргкамітэту;
(подпіс) Міхась Дубянецкі, член Аргкамітэту (Менск, пр. Машэрава, 1 -- 2 -- 7. Тэл. 23-59-44);
(подпіс) Вячаслаў Жыбуль, член Аргкамітэту (Менск, вул. Пятра Глебкі, 114 -- 3. Тэл. 53-69-27).

19 траўня 1989, Менск.

● Зь сярэдзіны траўня Аргкамітэт распачаў падрыхтоўку да Устаноўчага зьезду Беларускага Народнага Фронту. На Зьезьдзе будуць прынятыя Праграма і Статут, дэмакратычным шляхам абраныя кіраўнічыя органы народнага руху. У групах падтрымкі актыўна вядзецца збор ахвяраваньняў на арганізацыю Зьезду, абмяркоўваюцца Матарыялы да праекту Праграмы БНФ.

● МЕНСКАЯ АПЕРАЦЫЯ "ВЫБАРЫ"
(Ноч на 25 сакавіка 1989)

У Саюзе пісьменьнікаў БОМБА --
ажно дзесяць мільёнаў тон:
матар'ялы Народнага Фронту!..
Задрыжэў Сакалоў... (і Галко)...
Тыя дрыжыкі -- ў міліцыю
папаўзьлі тэлефонным званком...
І заняў баявую пазіцыю
Позна ноччу Менскі Галком.
Кампетэнтныя тыя злодзеі
кабінет нумар трыста шэсьць
узламалі і... "абясшкодзілі":
ўратавалі свой "гонар" і "чэсьць".
(Пасьлязаўтра -- ў Вярхоўны выбары,
а ў БОМБЕ -- сіла цытат:
Сакалоў -- ліжа Брэжневу лыткі...
Галко -- чарцы таварыш і брат...)
Сёньня -- ўзламваюць хату пісьменьнікаў...
Заўтра -- йдуць мардаваць "Талаку"...
Што ж ты, браце Валеры Пячэньнікаў,
ня ўздымеш пратэсту руку?..
Мафіёзнай улады агонія
яшчэ шмат нам наробіць бед...
Трэба, людцы, сёлетняй восеньню
добра чысьціць Вярхоўны Савет!

Матэрыялы грамадскага дасьледваньня
абагуліў -- Вядзьмак Менскі.

---

Выпуск падрыхтавалі А.Кавальчук, С.Драч.
24 траўня 1989.